

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 604 Лістапад-Сьнежань, 2013 г. Год выданьня 64

## Шаноўныя чытачы!

Перад вамі апошні выпуск нашай газэты ў 2013 годзе. На яголых старонках мы прадстаўляем інфармацыі пра падзеі, што адбываліся ў лістападзе і сьнежні.

Паўсюдна ў беларускім замежжы былі ўрачыста адзначаныя ўгодкі Слуцкага паўстаньня. Да трэйцяй гадавіны падзеяў 19 сьнежня 2010 году ў Менску была прымеркавана Сусьветная акцыя памяці і пратэсту супроць дзеяньняў рэжыму Лукашэнкі. Беларусы ў розных краінах сьвету падтрымалі ідэю і выйшлі на дэманстрацыі і пікеты.

Увагу цэлага сьвету прыцягнулі да сябе падзеі ва Украіне на Эўрамайдане. Дэмакратычная беларуская грамадзкасьць як у Беларусі, так і ў замежжы падтрымала імкненьне братняга ўкраінскага народу да інтэграцыі з Эўропаю. Беларусы на Майдане абазначылі сваю прысутнасьць бел-чырвона-белымі сьцягамі.

І, нарэшце, у сьнежні пачынаецца сьвяточны час, які ўсе мы чакаем цэлы год: Каляды і сустрэча Новага году, у газэце мы таксама нагадваем пра гэта.

Адыходзіць у вечнасьць чарговы, можа, не ва ўсім спагадлівы для кожнага з нас, 2013 год. Нашая газэта ня можа паскардзіцца на яго, бо мы захавалі сваіх чытачоў, захавалі дзякуючы вашай падтрымцы нашае выданьне і ўступаем у новы год з новымі надзеямі і спадзяваньнямі, стоячы на добрым падмурку, які закладзены беларускай эміграцыяй у Амэрыцы. Але мусім падзяліцца і сваёй трывогаю, бо шэрагі чытачоў папаўняюцца слаба, недастатковая актыўнасьць нашых людзей і ў справе забесьпячэньня публікацый у газэце. Мала жадаючых дзяліцца сваімі думкамі, выказваць прапановы, дыскутаваць на закранутыя ў публікацыях актуальныя тэмы.

Патрабуе большай увагі нашых чытачоў і фінансавае забесьпячэньне газэты. Некаторыя атрымліваюць газэту і не клапоцяцца пра тое, каб даслаць сваё ахвяраваньне. Ёсьць і такія, што кажуць - навошта дасылаць грошы, калі можна ў грамадзкай залі ўзяць газэту бясплатна. Мы радуемся, калі газэту бяруць у грамадзкай залі і просім нават узяць больш асобнікаў, каб перадаць іншым. Але варта памятаць пра тое, што чарговы нумар газэты зьявіўся на сьвет пасьля таго, як за яго было заплачана больш за 700 дал., гэта толькі за друк і рассылку, астатняя праца выконваецца на грамадзкіх пачатках, без аплаты.

Рэдакцыя газэты сардэчна віншуе вас, дарагія чытачы, з надыходзячымі сьвятамі Калядаў і Новага году. Жадаем усім вам добрага здароўя, шчасьця ў вашых сем'ях, добрых набыткаў у жыцьці і працы. Заставайцеся з намі і ў наступным годзе!

*Рэдакцыя*

## ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ - 2013




*Ушанаваньне памяці змагароў Слуцкага збройнага чыну сёлета ў Слуцку*

Дарагія Суродзічы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаю Вас з угодкамі Слуцкага Збройнага Чыну - Днём Герояў Беларусі.

Кожны год мы сьвяткуем гэты восеньскі дзень, каб прыпомніць і аддаць чэсьць тым адважным Случчаком, якія ўзялі на сябе заданьне абараніць сваю зямлю ад бальшавіцкай навалы.

Дарагія Суродзічы! Случчакі жывуць таму, што мы іх памятаем. А таму, што мы іх памятаем, і мы жывём! І ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Усе мы ведаем пра ролю памяці ў жыцьці кожнага народу.

У канадзкай правінцыі Квэбэк, дзе я жыву, народным дэвізам ёсьць JE ME SOUVIENS! (Я ПАМЯТАЮ). Нашую памяць акупанты стараліся выкараніць на працягу двух стагодзьдзяў, бо ведалі, што без памяці народ памрэ. Аднак нашая нацыянальная сьведамасьць, па якой і свае, і чужыя няраз адпраўлялі паніхіды, перамагла ўсе спробы генацыду. Памяцьцю мы даказалі нашую жыцьцяздольнасьць.

Апошняя надзея нашых ворагаў - выкараніць з памяці народа беларускую мову. Ня ведаю, як Вам, але мне падаецца, што і тут яны прайграюць! Я моцна веру, што і тут пераможа нашая генэтычная памяць, бо наш цярплівы народ не адмовіцца ад жыцьця. Выратуем мы і нашую цудоўную мову.

Жывуць Случчакі! Жыве Беларусь! Будзе жыць беларуская мова! Бо мы памятаем!

*Івонка Сурвілла*
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

## Адзначэньне ўгодкаў Слуцкага паўстаньня ў Нью-Ёрку



Сьвяточная імпрэза адбылася 1 сьнежня ў грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлянтык Авэню 401, ладзіў яе Бруклінскі аддзел БАЗА. Раніцаю ў царкве пасьля Літургіі быў адслужаны малебен у памяць слуцкіх змагароў, былі пералічаны імёны загіблых там герояў.

На пачатку сьвяткаваньня ў грамадзкай залі быў зачытаны Зварот старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы з нагоды Дня Герояў. Са зьмястоўнай інфармацыяй пра падзеі на Случчыне выступіў а. Леанід Акаловіч. Прысутныя з цікавасьцю прагледзелі дакумэнтальны фільм Белсату пра Слуцкі збройны чын.

## Дзень герояў у Нью-Джэрзі

1 сьнежня ў Царкве Сьв. Жыровіцкай Іконы Божай Маці ў Нью Брансвіку адбылася літургія і паніхіда па загіблым удзельнікам Слуцкага збройнага чыну. Потым у грамадзкай залі быў паказаны фільм пра Слуцкае паўстаньне. Удзельнікі сьвяткаваньня наведалі беларускія могілкі, дзе ўсклалі вянкі да помніка героям і на магілу пахаванага там удзельніка Слуцкага змаганьня Хведара Данілюка.

## Фільм "Жыве Беларусь!" у Нью-Ёрку



17 лістапада беларуская грамада Нью-Ёрку мела нагоду сустрэцца з госьцем з Беларусі Франакам Вячоркам – моладзевым актывістам, журналістам і адным з аўтараў вядомага мастацкага фільму "Жыве Беларусь", які атрымаў шматлікія ўзнагароды на розных міжнародных кінафестывалях. Сп. Вячорка распавёў пра тое, як задумваўся фільм, пра мэту ягоных стваральнікаў паказаць драматызм жыцьця беларускай моладзі ва ўмовах лукашэнкаўскага рэжыму.

Сам Франак зьведаў на ўласным жыцьці сёньняшнія беларускія рэаліі пад час службы ў войску. Як сын вядомага беларускага грамадзка-палітычнага дзеяча Вінцука Вячоркі Франак з дзяцінства быў далучаны да беларускага адраджэнскага руху і сёньня бярэ ў ім чынны ўдзел а таксама актыўна папулярызуе Беларусь у замежжы. Ягоны выступ выклікаў зацікаўленьне прысутных і актыўную дыскусію на завяршэньне. Пасьля размовы адбыўся прагляд фільму.



*Тацьцяна Красоўская*

## Бітва за Украіну



Гарачымі выдаліся сёлета ва Украіне апошні месяц восені і пачатак зімы. Палітыка украінскіх уладаў, якія пайшлі па сутнасьці на падман свайго народу, прывяла да бурнай рэакцыі грамадства. Замест абяцанага падпісаньня дамовы з Эўрапейскім зьвязам на саміце ў Вільні 28-29 лістапада прэзыдэнт Віктар Януковіч падпісаў пазьней пагадненьні з Расеяю і тым самым скіраваў Украіну на Усход, у абдымкі Расеі, у той час, калі украінскае дэмакратычнае грамадства мела надзею на арыентацыю сваёй краіны на эўрапейскі шлях разьвіцьця.

Шырокія акцыі пратэстаў ахапілі не толькі сталіцу, але і іншыя месцы, пераважна на захадзе Украіны. У Кіеў сталі падцягвацца дэманстранты з розных месц і ў цэнтры горада стварылася своеасаблівая зона свабоды, якую цяпер называюць Эўрамайданам у памяць пра гераічную старонку гісторыі сучаснай Украіны – "памаранчавую рэвалюцыю" на Майдане 2004 году, калі народ не прызнаў сфальшаваных прэзыдэнцкіх выбараў і не дапусьціў да ўлады Януковіча, а на прэзыдэнцкую пасаду быў абраны Віктар Юшчанка.

Эўрамайдан – гэта самаарганізаваная супольнасьць патрыётаў, якія вядуць сваё змаганьне, сваю вялікую бітву за дэмакратычную і незалежную будучыню Украіны, супроць вяртаньня яе ў новую расейскую імпэрыю. Гэта і бітва між аб'яднанаю Эўропаю і імпэрскаю Расеяю ня толькі за лёс Украіны, але і за будучыню цэлай Эўропы, а таксама і за лёс нашай Бацькаўшчыны-Беларусі.

## Беларусы падтрымалі Эўрамайдан

### *Заява Рады БНР у падтрымку абаронцаў свабоды Украіны*

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі вітае памкненьне украінскага народу да свабоды і дэмакратыі і выказвае захапленьне мужнымі абаронцамі Майдану, усімі, хто выйшаў адстойваць свае права на годнае жыцьцё. Рада БНР выказвае салідарнасьць з грамадзянамі Беларусі, якія прыехалі ў Кіеў, каб прадэманстраваць падтрымку украінскаму народу.

Сёньня відавочна, што мільёны людзей на вуліцах гарадоў Украіны – гэта ня толькі прадстаўнікі пэўных палітычных сілаў, гэта – сам украінскі народ, у ягоным сьвятым памкненьні да свабоды, да справядлівасьці і да права самому вырашаць свой лёс. У 2004 годзе Рада БНР выказала сваю падтрымку тым, хто абараняў на Майдане свае права дэмакратычна абіраць уладу; сёньня мы падтрымліваем тых, хто зрабіў эўрапейскі выбар.

Рада БНР вітае рашэньні дэпутатаў Эўрапарляманту пра больш хуткае падпісаньне асацыяцыі з Украінай, а таксама прапановы эўрадэпутатаў да міжнародных фінансавых арганізацыяў эканамічна спрыяць Украіне. Рада БНР асуджае выкарыстаньне Масквой мэтадаў палітычнага і эканамічнага ціску на Кіеў.

Адначасна, лічым недапушчальным ўжываньне ўкраінскімі ўладамі сілы супраць удзельнікаў масавых народных акцыяў у Кіеве і ў іншых украінскіх гарадах. Прымяненьне такіх мэтадаў пагражае скінуць Украіну з цывілізаванага шляху разьвіцьця.

Мы верым, што народ Украіны, народ слаўнай гісторыі і багатай культуры, абароніць свае права быць у шэрагу эўрапэйскіх цывілізаваных народаў. Мы верым, што зойме сваё месца ў гэтым шэрагу і Беларусь.

Слава Украіне! Жыве Беларусь!

*14 сьнежня 2013 г.*

## Беларусы на Эўрамайдане

Бел-чырвона-белыя сьцягі луналі над удзельнікамі мітынгаў і дэманстрацый ва украінскай сталіцы ад самага пачатку. Іх уздымалі тыя беларускія эмігранты, якія апошнім часам апынуліся ва Украіне, сярод іх і палітычныя ўцекачы ад беларускага рэжыму. Таксама аднымі з першых у падмацаваньне ім падаліся ў Кіеў актывісты моладзевых дэмакратычных арганізацый з Беларусі, а пазьней і старэйшыя прадстаўнікі беларускіх апазыцыйных сілаў. Пратэстоўцы горача віталі выступ на Майдане Уладзіміра Някляева.

## Відэазварот сьвятароў

Айцец Леанід Акаловіч – сьвятар Катэдральнага Сабору БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку і госьць Парафіі украінскі сьвятар айцец Іван Кухар падрыхтавалі і зьмясьцілі ў інтэрнэце відэазварот у падтрымку ўдзельнікаў Эўрамайдану. Яны даслалі свае дабраслаўленьні пратэстуючым і паведамілі, што моляцца за іх перамогу.

## БАЗА далучылася да аўтараў звароту да Прэзыдэнта ЗША

Грамадзкія нацыянальныя арганізацыі, якія супрацоўнічаюць з Цэнтральнай і Усходне–Эўрапейскай Кааліцыяй у Амэрыцы, у тым ліку і БАЗА, падрыхтавалі зварот да прэзыдэнта ЗША Барака Абамы з просьбаю да амэрыканскіх уладаў падтрымаць імкненьне украінскага народу да свабоды і адначасна ўвесьці санкцыі супроць дзеяньняў уладаў Януковіча па брутальнаму разгону Эўрамайдана.

Ад імя БАЗА зварот па даручэньні кіраўніцтва падпісала намесьніца старшыні Гуртка БАЗА у Вашынгтоне сп. Алеся Кіпель.

# Слава Украіне! Жыве Беларусь!

*Валер БАРТАШ,*
*Старшыня Севастопальскага Таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча «Пагоня»*

Героям Эўрамайдана слава! Тое, што адбываецца ў Кіеве не зьяўляецца вынікам змовы палітычных сіл, якія супроцьстаяць рэжыму Януковіча. Народ Украіны паўстаў супроць адкрытай несправядлівасьці, якая запанавала ў краіне з першых гадоў пасьля абвяшчэньня незалежнасьці, супроць карупцыі, рэзкага падзелу грамадзтва па матэрыяльнаму становішчу, непрыкрытай раскошы жыцьця правячай эліты і чынавенства. Таксама паўплывала і зьнявага пачуцьця нацыянальнай годнасьці, выкліканая непаважлівымі адносінамі да украінскай мовы, культуры, гісторыі.

Па сацыялягічных апытаньнях 60 адсоткаў насельніцтва зьвязваюць перспэктыву нармальнага разьвіцьця Украіны з уступленьнем у Эўрапейскі Зьвяз, спадзеючыся, што эўрапейскія стандарты ў бізнэсе, заканадаўчай сфэры, культуры, а таксама пэрспэктыва паездак бяз візаў у краіны ЭЗ прымусяць улады правесьці рэформы.

Адмова Януковіча ад падпісаньня дамовы пра асацыяцыю з ЭЗ была ўспрынята як падман з мэтаю арыентаваць зьнешнюю палітыку на ўсход - на Расею, як страта надзеі на далучэньне да эўрапейскага цывілізаванага грамадзтва. Частыя вояжы прэзыдэнта Януковіча ў Маскву, стыль патаемнай дыпляматыі, калі народ ставяць перад фактам, як гэта было з падпісаньнем Харкаўскага пагадненьня аб працягу тэрміну базаваньня расейскага Чарнаморскага флёту ў Севастопалі, давалі таксама падставы дзеля масавага незадавальненьня палітыкаю уладаў.

Сілавы разгон мітынгуючых, жорсткае зьбіцьцё міліцыяй мірных грамадзянаў яшчэ больш абвастрылі супроцьстаяньне з уладамі. Пратэстуючыя ўпэўненыя ў сваёй праўдзе і гатовыя ісьці да канца ў сваім змаганьні. Эўрамайдан, без сумненьня, станецца слаўнай старонкай гісторыі незалежнай Украіны.

Мне добра памятаюцца ранейшыя падзеі, якія маюць непасрэдную сувязь з тым, што адбываецца цяпер. У 2004 годзе я прымаў удзел у прэзыдэнцкіх выбарах як юрыст штаба кандыдата ў прэзыдэнты Віктара Юшчанкі ў Севастопалі. Мой сын Андрэй быў старшынём тэрытарыяльнай выбарчай камісіі, жонка Валянціна і дачка Алена зьяўляліся сябрамі камісіі.

Былі мы і на «памаранчавым» Майдане ў Кіеве. Ужо тады мы пабачылі, да якіх падтасовак маглі апускацца ў сваіх выбарчых тэхналёгіях прыхільнікі Януковіча, падтрымліваемые маскоўскім Крамлём. Падзеі апошняга часу ў Кіеве яшчэ раз паказалі сапраўднае аблічча гэтых палітычных прайдзісьветаў.

Севастопаль па свайму нацыянальнаму складу расейскі горад, большую частку насельніцтва складаюць былыя вайскоўцы і іх сем'і, для якіх украінскія праблемы чужыя. Толькі справядлівая ўлада, якая клапоціцца пра інтарэсы людзей, можа дабіцца таго, каб гэтае насельніцтва хаця б ляяльна ставілася да дзяржавы Украіна.

На мой погляд, некарэктна супроцьпастаўляць крытычна беларускую апазыцыю з украінскай. Ва Украіне ёсьць тое, пра што ў Беларусі можна толькі марыць. Ёсьць нацыянальныя вышэйшыя навучальныя ўстановы - Кіева-Магілянская акадэмія, Нацыянальны унівэрсытэт імя Тараса Шаўчэнкі, Пэдагагічны унівэрсытэт імя Драгаманава. Там гучыць украінская мова і дамінуе украінская нацыянальная ідэя. Украінскае войска мае нацыянальнае аблічча ў адрозьненьне ад беларускага. Дзяржаўная мова толькі ўкраінская. Ад 1991 году ва Украіне было абрана 4 прэзыдэнты, а ў Беларусі правіць бязьзьменны «падзішах».

Сёньня кожны Беларус, дзе б ён ні знаходзіўся, павінен разумець: Украінская справа – гэта і наша справа!

На ўсіх публічных акцыях у згаданым 2004 годзе ў Севастопалі, Данецку, Кіеве, Сімфэрополі я заўсёды быў з бел-чырвона-белым сьцягам у руках і скандаваў разам з усімі:

«Слава Украіне!» з думкаю:

«Жыве Беларусь!»

# Эўрамайданаўцы пікетавалі беларускую амбасаду

На Эўрамайдане ў Кіеве 19 сьнежня прайшла акцыя салідарнасьці з беларускім народам. Як паведаміў з Кіева лідэр руху салідарнасьці «Разам» Вячаслаў Сіўчык, на знак салідарнасьці з беларусамі на Майдане Незалежнасьці быў расцягнуты вялікі (пяць на дзесяць мэтраў) бел-чырвона-белы сьцяг. Затым беларускія і украінскія актывісты прайшлі калонай да будынку амбасады Беларусі ў Кіеве, дзе прынялі зварот з патрабаваньнем вызваліць усіх беларускіх палітвязьняў і правесьці свабодныя выбары.

# Кніга па гісторыі БНР

У Менску выйшла кніга "Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы". Кнігу выдала Згуртаваньне "Бацькаўшчына" у сэрыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" сумесна з Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва (Нью-Ёрк, ЗША). Укладальнікі выданьня — Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч.

У кнізе публікуюцца пратаколы пасяджэньняў Рады і Ураду, найважнейшыя дакумэнты, ліставаньне — усё тое, што дапаможа асэнсаваць, якія падзеі адбываліся ў палітычным жыцьці беларускай эміграцыі на Захадзе ў паваенны час.

Асноўны зьмест кнігі склалі дакумэнты, датычныя дзейнасьці Рады БНР часоў Міколы Абрамчыка — 1947—1970 гг.

# У Таронта адзначылі 65-годзьдзе Згуртаваньня беларусаў Канады




**1 снежня беларусы Канады адсьвяткавалі 65-годзьдзе стварэньня Згуртаваньня беларусаў Канады (ЗБК). Перад пачаткам сьвяточнай часткі адбылася супольная малітва за душы ўсіх спачылых сяброў Згуртаваньня, а таксама ўдзельнікаў Слуцкага збройнага чыну.**

Сёлета імпрэза праходзіла ў фармаце вялікага супольнага Дня Народзінаў. Да сяброў Згуртаваньня, што сабраліся ў вялікай залі ЗБК, зьвярталіся зь віншаваньнямі прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў зь іншых краінаў сьвету. Адкрыў сьвята відэазапіс сьвяточнай прамовы Прэзыдэнта Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы. У простым эфіры прагучалі віншаваньні з Беларусі - Зьмітра Дашкевіча (Малады Фронт), Паўла Севярынца (БХД), Управы МГА ЗБС "Бацькаўшчына", а таксама Ганны Сурмач (Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Нью-Ёрк) ды Хвэдара Нюнькі (Таварыства беларускай культуры, Вільня). Таксама ў запісе прагучалі віншаваньні сябраў дыяспары ў Канадзе, якія не змаглі прысутнічаць: Марыі Ганько і Вольгі Грыцук.

Былі ўзгаданыя першыя гады дзейнасьці, калі паваенныя імігранты ахвяравалі літаральна апошнія цэнты і багата свайго часу, каб стварыць беларускі асяродак у далечыні ад Бацькаўшчыны. Былі прадэманстраваныя архіўныя дакумэнты: устаноўчыя паперы, першыя заявы аб уступленьні ў Згуртаваньне. Успаміналі ўсіх старшыняў ЗБК, іхны ўнёсак у агульную справу Беларушчыны.

Напрыканцы імпрэзы грамада паглядзела відэазапіс лекцыі айца Леаніда Акаловіча, прымеркаванай да 93-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну.

Па заканчэньні імпрэзы некаторыя сябры накіраваліся да консульства Украіны ў Таронта, каб выказаць сваю падтрымку братняму народу на мітынгу украінскае дыяспары за эўрапейскі выбар Украіны.

# Жыве Беларусь у Канадзе!
## Гутарка з Валянцінай Шаўчэнка

*Сёньня, 28 лістапада, Згуртаваньню беларусаў Канады спаўняецца 65 гадоў. Безумоўна, гэта вялікі тэрмін для арганізацыі, і не можа не цешыць тое, што і сёньня арганізацыя працягвае актыўную працу. Напярэдадні юбілею мы пагутарылі са Старшынёю Згуртаваньня беларусаў Канады Валянцінай Шаўчэнка аб жыцьці і набытках арганізацыі, аб планах на будучыню.*

**"Бацькаўшчына":** Набліжаецца цудоўны юбілей, 65-годзьдзе Згуртаваньня беларусаў Канады. З чым сустакае Згуртаваньне такі юбілей, зь якімі набыткамі?

**Валянціна Шаўчэнка:** Галоўным набыткам я лічу тое, што, нягледзячы на шматлікія цяжкасьці, Згуртаваньне беларусаў Канады жыве і працягвае традыцыі тых, хто гэтую арганізацыю заснаваў, застаецца верным ідэалам 25 Сакавіка. На маю думку, ЗБК зьяўляецца адной з самых актыўных беларускіх суполак свету.

**"Бацькаўшчына":** 65 гадоў – гэта цэлая эпоха, Згуртаваньне аб'ядноўвае беларусаў розных пакаленьняў і, напэўна, вырасьціла не адно пакаленьне. Распавядзіце пра моладзь ЗБК.

**ВШ:** На жаль, да нас далучаецца няшмат моладзі, але ж тая, што далучылася – гэта цудоўныя хлопцы і дзяўчаты. Гэта Піліп і Аліна Тананкі, Алена Лявончанка, Ірына Тоўсцік і Зміцер Доўнар, Аляксандра Саленік, Алесь Бычынскі, Сяргей Вашкевіч, Алеся Манькоўская і шмат іншых. Сучаснасьць уносіць свае карэктывы ў жыцьцё, рытм яго зьмяніўся, зьмяніліся і сродкі камунікацыі, але ж, нягледзячы на гэта, маладым людзям патрэбныя жывыя зносіны. Яны хочуць, каб іх дзеці размаўлялі па-беларуску, каб сьпявалі беларускія песьні, каб расьлі беларусамі. І, што вельмі важна, на іх можна заўсёды абаперціся, папрасіць дапамогі, падтрымкі ці проста паразмаўляць. Некаторыя маладыя хлопцы і дзяўчаты нават не зьяўляюцца сябрамі ЗБК, але ж часам яны бяруць у нашым жыцьці такі вялікі ўдзел, што фармальнае сяброўства ў арганізацыі ўжо ня мае ніякага значэньня. І, шчыра кажучы, для мяне няважна, ці зьяўляецца чалавек сябрам ЗБК, – галоўнае, што ён адчувае сябе беларусам. А такое адчуваньне ў нас падзяляе ўся моладзь. Калі гэтым летам мы пачалі аднаўляць Беларускі Крыж, было вельмі прыемна назіраць, як працуюць браты Стэфановічы. Гэтыя два хлопцы, 13-ці і 16-ці гадоў, дапамагалі з такім энтузіязмам, што было відавочна: ніякія электронныя гульні не могуць параўнацца з магчымасьцю ўзяць удзел у супольнай працы.

**"Бацькаўшчына":** Як Вы лічыце, чаму беларусы, якія жывуць у Канадзе сёньня і якіх відавочна шмат, не далучаюцца да дзейнасьці таварыства? І што, на Вашую думку, трэба зрабіць, каб прыцягнуць іх?

**ВШ:** Выглядае, што гэта праблема ня толькі беларусаў. Я сустракалася зь сябрамі сербскай, румынскай, польскай і іншых суполак – паўсюль паўстае тое самае пытаньне: як далучыць новых людзей да грамадзкага жыцьця. Але ж, наколькі мне здаецца, такая сітуацыя цяпер па ўсім сьвеце. І наагул, калі разглядаць псыхалёгію чалавека, дык усяго некалькі адсоткаў жыхароў любой краіны зьяўляюцца актыўнымі, астатнія людзі проста жывуць сваім жыцьцём і ўключаюцца ў нейкія рухі ці грамадзкую дзейнасьць толькі тады, калі закранаюцца такія важныя рэчы, як рэлігія, здароўе ці жыцьцё. Можаце прадоўжыць самі, зыходзячы з сучаснай сытуацыі ў Беларусі. Пакуль што ў Канадзе гэтыя пытаньні не паўстаюць, і таму людзі жывуць сваім жыцьцём – шмат працуюць, гадуюць дзяцей, а сувязь з Радзімай трымаюць праз віртуальную прастору ці амаль што кожны год наведваючы родных і сяброў. Гэта раней, для эміграцы пасьляваеннага пакаленьня, калі немагчыма было нават падумаць пра тое, што калі-небудзь удасца наведаць Бацькаўшчыну, нацыянальная суполка замяняла людзям сваякоў, што засталіся на Радзіме, – і таму значна больш людзей бралі ўдзел у дзейнасьці ЗБК. Трэба дадаць, што, на жаль, "дзякуючы" шматгадовай русіфікацыі Беларусі, многія людзі страцілі сваю нацыянальную ідэнтыфікацыю і часам ня лічаць сябе беларусамі.

Таксама, на маю думку, у нашых людзей ёсьць трывалы імунітэт супраць грамадзкага жыцьця, які сфармаваўся ў часы СССР, – таму яны не хочуць далучацца да якой-небудзь арганізацыі. Але ж, нягледзячы на усё пералічанае, ёсьць шмат актыўных людзей, якія ўкладаюць душу ў дзейнасьць ЗБК, ахвяруюць свой час і грошы на тое, каб арганізацыя працягвала існаваць. Віялета Кавалёва, Натальля Колас, Юрка Шаўчэнка, Зміцер Леановіч, Андрэй Бабко, Надзея Дробіна, Ігар Фялюшкін, Вольга Манькоўская, Алесь Кот, Юрка Рапецкі, Зміцер Эльяшэвіч, Слаўка Кавалёў, Петра Мурзёнак, Юрка Шамецька, Руслан Качаткоў - спіс можна прадоўжыць.

Што зрабіць, каб больш людзей далучалася? Мне здаецца, трэба больш праводзіць культурных мерапрыемстваў, ствараць клюбы па інтарэсах, рабіць нешта такое, што аб'ядноўвае людзей. Цудоўным прыкладам такой дзейнасьці ёсьць фолк-гурт "Яваровы людзі", удзельнікі якога ня толькі сьпяваюць і танчаць, але ж з часам становяцца актыўнымі сябрамі нашага таварыства. Трэба ладзіць нефармальныя акцыі – пасьля таго, як мы ўзьнялі бел-чырвона-белы сьцяг над Таронта, да нас далучыліся некалькі маладых хлопцаў, так ім спадабалася гэтая акцыя. Адно ведаю дакладна – нельга стамляць людзей доўгімі прамовамі ці кідацца лёзунгамі, гэты шлях ужо не працуе. Трэба шукаць сучасныя сродкі размовы ці агітацыі.

**"Бацькаўшчына":** Як для Вас асабіста пачынаўся шлях у ЗБК?

**ВШ:** Вы будзеце зьдзіўленыя, але ж мой шлях у ЗБК пачаўся каля 40 гадоў таму. Маю сяброўку, як дачку афіцэра, вызвалілі ад вывучэньня беларускай мовы. Я прыйшла са школы і папрасіла свайго бацьку, каб мяне таксама вызвалілі, бо, як і большасьць дзяцей, я не вельмі хацела вывучаць родную мову. Бацька неяк сьцямнеў тварам і сказаў – вельмі спакойна, але ж так, што я памятаю гэта праз усе гады – "Родную мову вывучаць будзеш, бо ты – беларуска". І вось гэта – "ты беларуска" – і прывяло мяне ў ЗБК. Прывяло праз любоў да ўсяго таго, што мой бацька ўклаў тады ў свае словы, праз удзел у шматлікіх дэманстрацыях і мітынгах на Бацькаўшчыне, праз надзею і расчараваньне, праз рашэньне зьехаць у эміграцыю... Пра ЗБК мы даведаліся яшчэ ў Менску ад нашага сябра-мастака, і калі прыехалі ў Канаду на пачатку сакавіка 1998 года – адразу пазванілі сп. Міколу Ганьку. І ўжо праз некалькі тыдняў нашая маленькая дачка чытала беларускі верш на сьвяткаваньні Дня Волі. Вось так, праз гады, словы "ты – беларуска" вярнуліся, і так пачаўся ці працягнуўся мой шлях у ЗБК. Але ж я б хацела дадаць, што гэта не мой шлях, гэта шлях супольны для мяне і майго мужа Юркі, без падтрымкі і дапамогі якога было б цяжка выконваць абавязкі старшыні ЗБК.

**"Бацькаўшчына":** Што для Вас значыць праца ў гэтай арганізацыі?

**ВШ:** Шчыра кажучы, я не ўяўляю сабе нашае з Юркам жыцьцё ў Канадзе без ЗБК. Для нас праца ў гэтай арганізацыі азначае магчымасьць сустракацца зь сябрамі, магчымасьць дапамагаць людзям тут, у Канадзе, і падтрымліваць аднадумцаў на Бацькаўшчыне. Гэта магчымасьць захаваньня беларускай мовы, традыцый і культуры ў канадыйскім асяродзьдзі. Гэта магчымасьць выказаць сваю палітычную і грамадзкую пазыцыю і падтрымаць дэмакратычныя працэсы ў Беларусі. Гэта магчымасьць мець цікавае жыцьцё, адчуваць сваю запатрабаванасьць. Ведаеце, у гэтым годзе мы шмат часу аддалі на тое, каб аднавіць Беларускі Крыж. Юрка зрабіў яго сваімі рукамі – а трэба дадаць, што вышыня Крыжа 4 з паловай метры, ён уяўляе сабой даволі складаную інжынерную канструкцыю. Гэта заняло шмат часу і сіл, але ж трэба было бачыць шчасьлівыя твары людзей, калі Крыж паўстаў і яго асьвяціла сонца. І я зразумела, што праца ў ЗБК дае унікальную магчымасьць рабіць жыцьцё людзей трохі сьвятлейшым і весялейшым, магчымасьць зрабіць наш сьвет лепшым.

**"Бацькаўшчына":** Якімі асноўнымі здабыткамі таварыства вы ганарыцеся?

**ВШ:** Перш за усё, гэта тое, што ЗБК ведаюць як у Канадзе, так і на Бацькаўшчыне. Мы ганарымся тым, што працягваем справу, якая пачалася 65 гадоў таму, што ЗБК ладзіць культурныя мерапрыемствы і палітычныя акцыі, на якія прыходзіць шмат людзей. Ганаруся тым, што ў нас існуе фолк-гурт «Яваровы людзі», жаночы клуб «Гузік». Тым, што новае пакаленьне наведвае нашыя імпрэзы і дапамагае тым ветэранам ЗБК, якія па стане здароўя ўжо ня могуць бываць у нашым цэнтры, – гэта вельмі важна. Ганаруся тым, што жыве Беларусь у Канадзе!

**"Бацькаўшчына":** Калі ласка, акрэсьліце планы ЗБК на будучыню.

**ВШ:** Ну вядома, адсьвяткаваць 65-ю гадавіну ЗБК. Я вельмі спадзяюся, што гэтае сьвята, якое будзе адзначацца разам з гадавінай Слуцкага збройнага чыну, пройдзе цікава. Мы плануем тэлемост з Менскам, Прагай, Вільняй, Нью-Ёркам, Атавай – спадзяюся, што вы таксама далучыцеся. Апошнім часам я шмат працавала з архіўнымі дакументамі ЗБК і знайшла нямала цікавага. Пастараюся, каб людзі таксама змаглі дакрануцца да гісторыі і сваімі вачамі пабачыць, як ствралася арганізацыя, але ж спадзяюся зрабіць гэта нефармальна. Будзе некалькі сюрпрызаў, аднак зараз не хачу пра іх казаць.

Вельмі спадзяюся, што атрымаецца ўзяць удзел у Сусьветнай акцыі беларусаў замежжа 19 снежня.

Потым – традыцыйная Навагодняя вечарына, дзіцячая Калядная Ялінка, ужо традыцыйны вечар беларускай лірыкі, Дзень Волі – гэта толькі буйныя мерапрыемствы. Ну і, вядома ж, падрыхтоўка да ўдзелу у 31-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая адбудзецца на пачатку верасня 2014 г. у Нью-Ёрку.

*Сайт ЗБС "Бацькаўшчына",28 лістапада 2013*

# "Дзейнічалі ў моц патрыятычных пачуцьцяў"





На імпрэзу ў грамадзкай залі Катэдральнага сабору сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне (Нью-Ёрк) 15 сьнежня прыйшлі, як звычайна тут, людзі сярэдняга й малодшага веку. Толькі чатыры асобы з прысутных належалі да той, ужо легендарнай, хвалі беларускай паваеннай эміграцыі. Аднак, менавіта яны былі ў цэнтры ўвагі, бо ў нейкай меры ўсе былі героямі кнігі Янкі Запрудніка "Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью Джэрзі. Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948 – 2011 гг.)". Аўтар кнігі ў сваім выступе адразу адзначыў выразную адметнасьць публікі. (На папярэдняй прэзэнтацыі, у Саўт-Рывэры, было значна больш сталых амэрыканцаў-беларусаў), па гэтай прычыне ягоныя словы былі адрасаваныя найперш моладзі.

Праблема пераемнасьці пакаленьняў была закранутая і ў выступе Валянціны Трыгубовіч: "Зь беларусамі ў Амэрыцы я сустрэлася першы раз у 1992 годзе. Былі ў нас дзьве галоўныя тэмы размоваў. Адна – мажорная, другая – мінорная. Па-першае, усе субяседнікі чуліся шчаслівымі й казалі: "Дзякуй Богу, што я дажыў (або – дажыла) да таго дня, калі Беларусь стала незалежнай дзяржавай, пад бел-чырвона-белым сьцягам і Пагоняй". А другое: "Нашая эміграцыя імкліва старэе, няма каму пераняць нашую працу". Цяпер у Амэрыцы шмат новых эмігрантаў".

Каб рабіць штосьці новае, грамадзка значнае, трэба ведаць, што рабілася раней, абапірацца на досьвед, набыткі папярэднікаў. Вось пару слоў пра аўтара прэзэнтаванай кнігі. Ён нарадзіўся ў 1926 годзе ў Міры (тым самым, дзе ўзвышаецца над навакольлем магутны Мірскі замак). У час Другой сусьветнай вайны вучыўся ў Баранавіцкай прагімназіі, гандлёвай школе, быў сябрам Саюзу беларускай моладзі. Сярэднюю асьвету завяршыў у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне. Вышэйшую атрымаў у Лювэнскім унівэрсытэце ў Бэльгіі. Доктарскую дысэртацыю абараніў у Ньюёрскім унівэрсытэце (ЗША). На хлеб штодзённы зарабляць давялося і ў вугальных шахтах Вялікабрытаніі, і на Радыё "Свабода" (ад пачатку – радыё "Вызваленьне"), і чытаючы лекцыі студэнтам у Нью-Ёрку. Паралельна й нястомна вялася ім грамадзкая беларуская праца – ад скаўтынгу ў Заходняй Нямеччыне да рэдагаваньня газэты "Беларус". Ды яшчэ пісаліся кніжкі – пра гісторыю Беларусі, пра лёс сваіх аднагодкаў, якія ў паваеннай Эўропе шукалі шляхоў да навукі ("Дванаццатка"). Героі новай, прэзэнтаванай гэтым разам кнігі, беларусы, што жывуць у Амэрыцы й сваімі мастацкімі ды інфармацыйнымі высілкамі здабываюць прыхільнасьць да сваее радзімы ў розных колах амэрыканскага грамадзтва – ад палітыкаў да "простых" людзей. Мастацкае гуртаваньне пачыналася з унутраных патрэбаў беларускай грамады. Для дзяцей ладзіліся калядныя сьвяты ля ялінкі, урачыстасьці 25 Сакавіка аздабляў вялікі канцэрт, цэрквы патрабавалі хораў для правядзеньня багаслужбы... Даволі хутка людзі ўсьвядомілі, што пра Беларусь Амэрыка нічога не ведае. Пакаленьні эмігрантаў зь беларускіх земляў, што сыходзілі з параплаваў на мроены бераг, мелі пашпарты Расейскай імпэрыі або Польшчы, дык іх і запісвалі расейцамі ці палякамі. А паваенная хваля эміграцыі (сьведамы народ!) гучна заявіла: мы – беларусы. І дамагалася такога запісу ў дакумэнтах, у прэсе. Паўсюль. І даволі хутка гэтая плынь сфармулявала стратэгічную мэту сваёй дзейнасьці: паставіць Беларусь на мапу сьвету і дасягнула ў гэтым накірунку значных посьпехаў.

Прэзэнтацыю новай кнігі Янкі Запрудніка ў Нью-Ёрку зладзіў Бруклінскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) разам зь Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва (БІНіМ). Вяла імпрэзу старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА Тацьцяна Красоўская. Красамоўным фонам усіх выступаў быў слайд-фільм, зроблены Валянцінаю Трыгубовіч і Раманам Карпам. Фотаздымкі зьберагі фрагмэнты выступаў на розных фэстывалях, "занатавалі" трыюмф беларусаў, якія перамагалі на розных конкурсах; тут партрэтная галерэя актывістаў і задакумэнтаваны "дух эпохі". Цікавасьць выклікала й выстава, падрыхтаваная мастачкай Ірэнай Дутко з фатаграфіяў, афішаў, канцэртных праграмак ды іншых спадарожных фэстывалям рэклямных друкаў.

Пасьля асноўных спавешчаньняў былі пытаньні й адказы. Сваімі эмацыйнымі ўспамінамі пра мінулыя падзеі падзяліліся спадарыня Ала Орса-Рамана, наязьменная шматгадовая кіраўнічка танцавальнага ансамблю "Васілёк", сп. Леванід Акаловіч (а. Леванід), Ганна Сурмач, Надзея Запруднік, Расьціслаў Гарошка. На жаль, сьнег ды абледзянелая дарога не далі магчымасьці прысутнічаць на прэзэнтацыі спадару Вітаўту Кіпелю, дырэктару БІНіМу й сябру Янкі Запрудніка з часоў гімназіі імя Янкі Купалы. Ягоныя ўспаміны ды развагі, несумненна, яшчэ больш узбагацілі б імпрэзу. Прэзэнтацыя кнігі пра мінулае, перажытае стала добрай нагодай




пагаварыць пра сёньняшняе жыцьцё беларускай супольнасьці ў Амэрыцы, пра яе памкненьні й клопаты. Аўтару ж кнігі, спадару Янку Запрудніку, давялося яшчэ ў гэты дзень папрацаваць "пісарам": шмат хто з прысутных захацеў мець кнігу зь ягоным аўтографам.

*Сьцяпан Андрэйчык.*

# Мітрапаліта Філарэта зьмяніў мітрапаліт Разанскі



25 сьнежня 2013 г. у Маскве адбылося пасяджэньне Сьвяшчэннага Сыноду Расейскай Праваслаўнай Царквы, дзе было задаволена прашэньне, пададзенае мітрапалітам Менскім і Слуцкім Філарэтам, Патрыяршым экзархам усяе Беларусі, аб вызваленьні яго ад абавязкаў у сувязі з дасягненьнем 75-гадовага ўзросту.

Сынод выказаў падзяку мітрапаліту Філарэту за 35-гадовае архіпастырскае служэньне ў Беларусі і прызначыў мітрапаліта Філарэта ганаровым Патрыяршым экзархам усяе Беларусі, а таксама падзякаваў Лукашэнку за гатоўнасьць забясьпечыць пражываньне і годны ўзровень бытавога і мэдычнага абслугоўваньня мітрапаліту Філарэту.

Новым мітрапалітам Менскім і Слуцкім стаў мітрапаліт Разанскі і Міхайлаўскі Павел. Мітрапаліт Павел (Панамароў Георгій Васільевіч) нарадзіўся 19 лютага 1952 году ў Карагандзе. Адметны тым, што працаваў у свой час у Аддзеле вонкавых царкоўных адносінаў.

**Камэнтар:**

***Валянціна Трыгубовіч:***

«Адно магу зазначыць, яно ляжыць на паверхні: гэтае прызначэньне — выразнае сьведчаньне несамастойнасьці сёньняшняй беларускай праваслаўнай царквы і актуальнасьці ідэі аўтакефаліі».

# Кантэкст фэстывальна-выставачнай дзейнасьці

*Уступнае слова Янкі Запрудніка на прэзэнтацыі ягонай кнігі.*



Я зьвяртаюся найперш да прысутных тут прадстаўнікоў Маладой Беларусі. А гэта таму, што вялікая частка апісаных у маёй кнізе падзеяў адбылася тады, калі сёньняшнія дваццацігадовыя спачывалі яшчэ ў генах сваіх будучых бацькоў. Пра падзеі далёка мінулага часу яны даведваюцца ад нас, старэйшых, з нашых публікацыяў. Але тое, што публікуецца, каб яго ўспрыняць глыбей, вымагае шырэйшага кантэксту. Спробай даць такі кантэкст апісаным у кнізе падзеям і будуць мае далейшыя словы.

1908 годзе 26-гадовы Янка Купала – равесьнік вас маладых тут – пытаўся: "А хто там ідзе ў вялікай такой грамадзе?" Да гэтага ўсклiку народнай душы неўзабаве далучыўся новы голас. Купалаў ідэйны аднадумец Максім Багдановіч эмацыянальна пытаўся ў сваіх рыцараў-вершнікаў "Дзе шляхі вашы йдуць і куды?" Адказ на гэтыя кардынальныя пытаньні быў дадзены на працягу мінулага стагодзьдзя актамі аб суверэнітэце й незалежнасьці Беларусі. Сёньня ж трэба ставіць пытаньне: якімі сьцежкамі мы крочылі ды як далёка зайшлі? Адказ на гэтае пытаньне нам патрэбен дзеля маральнага адчуваньня. Бо памяць і веда аб пройдзеным шляху - *калі гэты* шлях вядзе да жаданай мэты, - трымае чалавека на духу. Можна нават выказаца афарыстычна: веда пра рух мацуе дух. Падзяліцца памяцьцю з маладымі, пра той рух, у якім удзельнічалі старэйшыя, мы й сабраліся сёньня. Памяць заўсёды патрэбная, бо яна становіць маральнае ядро чалавека. У пляне індывідуальным яна вызначае існасьць чалавека як асобы. Адбяры ад чалавека памяць, і яго няма.

Ключавую ролю памяці можна вызначыць, перафразуючы францускага філёзафа 17 ст. Рэнэ Дэкарта, які сказаў: Cogito, ergo sum – думаю, значыць існую. Падобна й з памяцьцю: памятаю сябе, значыць існую. Памяцьцю чалавек самаідэнтыфікуецца індывідуальна. Але мы памятаем сябе й калектыўна, як культурна-палітычная супольнасьць, як народ, як нацыя. І чым больш памятаем пра мінуўшчыну, тым глыбейшая наша нацыянальная сутнасьць.

Я не ўваходжу тут у пытаньне розьніцы паміж паняткамі "памяць" і "веда". Гэтыя два панятки сумежныя, і іхная ўзаемная адрознасьць не перашкаджае маёй тут развазе.

У кніжцы пра фэстывалі й выстаўкі апісваецца дарога, якою прайшлі - у магістральным кірунку да незалежнасьці - тысячы беларусаў, якіх віхры Другой сусьветнай вайны закінулі ў Амэрыку. Дарога гэтая была няпростай, яна йшла ўгару, вымагала напругі сілаў, самаахвярнасьці. Яна мела падабенства да нашага агульнага адраджэнскагa-незалежніцкага шляху - праўда, з той вялікай розьніцай, што вонкавыя абставіны не былі пагрозьлівымі, як на Бацькаўшчыне, а наадварот, адзначаліся прыхільнасьцю амэрыканскага грамадзтва да нашых волялюбных жаданьняў і мэтаў.

Сёньня важна глянуць, з чаго пачыналася наша інфармацыйная дзейнасьць у канцы 1940-х гадоў і дзе беларуская нацыянальна-дзяржаўная справа знаходзіцца цяпер - тут у Амэрыцы, на Бацькаўшчыне, ды наагул у сьвеце. Вось жа большага кантрасту паміж тым, што было 50-60 гадоў таму, і што мы бачым сёньня, цяжка сабе ўявіць.

Усьведамляць гэты кантраст, бачыць поступ наперад вельмі важна з гледзішча маральнага. Бо шлях наш надалей застаецца вельмі няпростым, і кожны, хто працуе на грамадзкай ніве, патрабуе сілы духа, патрабуе аптымізму, веры ў тое, што грамадзкая й палітычная праца ня йдзе надарма, што яна ў канчатковым выніку дае плён.

Таму важна заўсёды мець на ўвазе, дзе мы былі раней, каб выразьней бачыць, што рух ідзе наперад.

Якая паінфармаванасьць амэрыканцаў пра Беларусь была паўстагодзьдзя таму, я вам праілюструю на канкрэтным прыкладзе.

У 1957 годзе, адпрацаваўшы зь Мюнхэну два з палавіною гады ў радыё "Вызваленьне" (сёньняшняя "Свабода"), я перабраўся ў Нью-Ёрк. І тут працягваў сваю спачатку супрацу, а пасьля працу ў тым жа радыё як карэспандэнт. Сярод тэмаў, якімі я займаўся, было й беларускае жыцьцё ў Злучаных Штатах: у асноўным хроніка грамадзка-культурных і палітычных падзеяў. Навінаў у гэтай дзялянцы было ня густа. Асабліва мала было палітычных падзеяў, якія б датычылі беспасярэдня Беларусі. Агульная амэрыканская савецкая тэматыка ў друку то была багатай. Халодная вайна, канфрантацыя паміж Злучанымі Штатамі й Савецкім Саюзам тады прыцягвала шмат увагі й палітыкаў і журналістаў. Але вось пра Беларусь было глуха, як у густым лесе. Каб не прапусьціць ніводнага сказу з таго, што магло зьявіцца ў амэрыканскіх газэтах, я запатрабаваў ад радыё "Свабода" зрабіць падпіску на газэтныя выразкі, у якіх згадвалася б Беларусь. Была такая служба: па 25 цэнтаў за выразку табе прысылаюць з кожнае менш-больш салiднае газэты згадку пра твой аб'ект зацікаўленьня. Вось жа выразкі то я атрымліваў, але амаль усе яны былі маламоўныя -- найчасьцей назоў краіны (Byelorussia) у пераліку савецкіх рэспублікаў або дзяржаваў-чальцоў ААН.

Сёньня англамоўнае інфармацыі пра Беларусь – цэлы акіян, якога не пераплысьці і, адпаведна, паінфармаванасьць вонкавага сьвету пра беларускі рух непамерна большая. Паінфармаванасьць гэтая – ня толькі вынік сусьветнай тэхналягічнай рэвалюцыі, але й вынік нашых супольных намаганьняў.

Падзагаловак мае кнігі – "Палітычная інфармацыя моваю мастацтва". У заключным слове да публікацыі я спасылаюся на выказваньне брытанскага антраполяга й лінгвіста Грэгары Бэйтсана, які акрэсьліў інфармацыю, як "розьніцу, якая робіць розьніцу" (a difference which makes a difference). Што гэта значыць? Гэта значыць, што веда, якую чалавек атрымоўвае праз інфармацыю, зьменьвае яго. Вось вы, якія сёньня тут слухаеце гэтыя словы, пакінеце нашу залю ў нейкай меры зьмененымі ў вашай сьведамасьці пад уплывам інфармацыі, якую вы тут атрымалі.

Грэгары Бэйтсан сваім выказваньнем глыбока зазірнуў у псыхалёгію чалавека, адзначыў важны аспэкт чалавечай сутнасьці. Але гэта ня значыць, што такое разуменьне інфармацыі было галоўным рухавіком нашых арганізацыйных намаганьняў, калі мы праводзілі фэстывалі й выстаўкі. Не, мы дзейнічалі ў моц патрыятычных пачуцьцяў, незалежніцкіх пераконаньняў і любасьці да Беларусі. Іншая рэч, што ўся гэтая фэстывальна-выставачная праца дакладна акрэсьленая Бэйтсанавым навуковым азначэньнем інфармацыі як фактару, што ўплывае на зьмену рэчаіснасьці.

Так што будзьма актыўнымі ў зьбіраньні інфармацыі ды пашыраньні яе ў імя свабоды й незалежнасьці Беларусі.

# Беларуская зброя ў барацьбе за сябе

Тэма, на якой я хачу засяродзіцца, - гэта тыя ідэі абароны нашай мовы, якія агучыў у час адзначэньня Дзядоў Юры Адамавіч Беленькі. Беларуская нацыя трымаецца на беларускай мове і на гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Таму мова ёсьць галоўнае пытаньне нашай абароны і галоўнай задачай зьнішчэньня з боку маскоўскіх ворагаў чалавецтва.

Беларуская мова ёсьць наша ўсеагульная нацыянальная каштоўнасьць незалежна ад палітычных і сацыяльных падзелаў. Мова аб'ядноўвае ўсіх нас, беларусаў, усю нацыю.

Адначасна наша беларуская мова - гэта наймагутнейшая зброя ў змаганьні з антыбеларускім рэжымам, зарука перамогі над ім, чыньнікам нашай сьветлай будучыні. Гэтай зброяй-мовай можа карыстацца кожны беларус. Дастаткова толькі пачаць усюды ў сваёй краіне на ёй гаварыць і пісаць. Рэжым адразу стане панікаваць, курчыцца, пачне палохаць, перасьледваць, забараняць. Ня трэба баяцца. Бо мова – гэта такая зброя, перад якой рэжым бяссільны. Толькі трэба за зброю ўзяцца.

Для шмат якіх ужо зрусіфікаваных па мове беларусаў такое рашэньне будзе няпростым і нават нялёгкім. Але не бяда. Пачынайма ад самага простага – пасылаем нашых дзяцей у беларускую школу. Паверце, што будзе, як напісана, - дзеці дапамогуць бацькам і адродзяць моўную Беларусь. Трэба толькі спрыяць нацыянальнаму беларускаму навучаньню. А дзе ўжо нішчыцелі пазачынялі і ліквідавалі беларускія школы, патрабуйце іх адчыніць і адначасна мусіць быць патрабаваньне, каб вышэйшая і спэцыяльная прафэсійная адукацыя таксама была беларускай. Дзеці мусяць мець магчымасьць вучыцца далей.

У нас, у беларусах, у нашым грамадзтве дрэмле вялікая нацыянальна-культурная сіла, якую трэба разьняволіць і даць ёй дарогу.

У пачатку 90-х, калі стаяла задача хуткай пабудовы незалежнай беларускай дзяржавы, галоўную ўвагу Народны Фронт канцэнтраваў на эканоміцы, фінансах, банкаўскай сістэме, нацыянальным войску, нацыянальнай валюце, межах, міжнароднай палітыцы, вольных сродках масавай інфармацыі і на беларускай школе і адукацыі. Канцэпцыя БНФ адраджэньня мовы, беларускай школы і адукацыі выдатна апраўдала сябе нават у тых умовах. Быў рэалізаваны спакойны вольны падыход. Грамадзтва само імкнулася да беларускай мовы і адукацыі. Справа ішла спрыяльна, няцяжка і з прыхільнасьцю. І ўжо праз тры гады дала добрыя вынікі.

Цяпер маскоўская агентура аж шалее, каб усё тое абпляваць, прыдумвае фантастычныя прапагандысцкія небыліцы, на якія нават было няёмка рэагаваць. Такая ўжо гэта прымітыўная гёбэльсаўшчына пра "чамаданы на вакзале" ды пра тое, як беларусы "душылі рускіх". Не душылі, бо рускія самы ішлі ў беларускія школы і бачылі сябе інтэграванымі ў Рэспубліку Беларусь.

*Зянон ПАЗЬНЯК,*
*Старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"*
*і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ*

# Акцыя ў памяць пра Плошчу-2010

## Менск



19 снежня 2010 у Беларусі прайшлі прэзідэнцкія выбары. Пасьля закрыцьця выбарчых участкаў дзясяткі тысяч чалавек выйшлі на дэманстрацыю супраць фальсіфікацый вынікаў выбараў. Яна стала самай масавай акцыяй пратэсту ў Беларусі за апошнія гады. Але мірны пратэст быў жорстка падаўлены міліцыяй і ўнутранымі войскамі.

Сёлета ў трэцюю гадавіну падзеяў на Плошчы ў Беларусі і ў замежжы былі праведзены грамадзкія акцыі памяці і пратэсту супроць рэжыму Лукашэнкі.

Беларуская эміграцыя гэтым разам скаардынавала папярэдне свае дзеяньні і правяла Сусьветную акцыю ў гадавіну Плошчы.

У Менску 19 сьнежня актывісты Руху салідарнасьці «Разам» і незалежнага прафсаюзу РЭП правялі арыгінальную акцыю – у неба была выпушчаная зграя белых галубоў, што сымбалізавала сабою патрабаваньне свабоды для палітвязьняў.

## Акцыі ў ЗША




*Вашынгтон*

У чацьвер, 19 сьнежня, сябры Вашынгтонскага гуртка Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) сумесна з праваабарончай арганізацыяй Amnesty International правялі мітынг ля будынка беларускай амбасады ў Вашынгтоне. Пра гэта паведаміў старшыня Гуртка Вячаслаў Бортнік.

Арганізатары мітынгу даслалі ліст у беларускую амбасаду, у якім паміж іншым запатрабавалі вызваліць усіх палітвязьняў, зьмяніць заканадаўства ў галіне свабоды аб'яднаньняў, сходаў і выяўленьня, а таксама ўвесьці мараторый на выкананьне ўсіх сьмяротных прысудаў.

Актывісты, якія сабраліся ля амбасады, трымалі беларускія бел-чырвона-белыя сьцягі, плякаты "Вызваліць усіх палітвязьняў" і партрэты гвалтоўна зьніклых у 1999-2000 гадах беларусаў. Яны таксама раздавалі ўлёткі зь інфармацыяй аб палітычных рэпрэсіях ў Беларусі.

Акрамя сябраў БАЗА і Amnesty International у пікеце таксама ўзялі ўдзел прэзыдэнт Freedom House Дэвід Крэмер, прэзыдэнт фонду "Мы памятаем" Ірына Красоўская, сябры Аб'яднанага Балтыйска-Амэрыканскага Нацыянальнага Камітэту (JBANC) Украінскага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, Цэнтральнай і Ўсходне-Еўрапейскай Кааліцыі ды Інстытута дэмакратыі ва Ўсходняй Еўропе. Дзяржаўныя сьцягі Украіны, Эстоніі, Латвіі, Літвы і Грузіі былі таксама заўважаныя на акцыі пратэсту.

21 і 22 сьнежня адразу ў трох гарадах ЗША амэрыканскія беларусы ўшанавалі падзеі трохгадовай даўніны, калі беларускія афіцыйныя ўлады гвалтоўна стлумілі масавыя пратэсты супраць фальшаваньня вынікаў выбараў прэзыдэнта краіны. Выхадцы зь Беларусі выйшлі ў гэтыя дні на вуліцы ў Нью-Ёрку, Філядэльфіі ды Маямі.

21 сьнежня прадстаўнікі трох беларускіх арганізацыяў выйшлі да штаб-кватэры Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў, каб нагадаць пра тое, што вось ужо тры гады, як у Беларусі няма легітымнай улады, а былыя кандыдаты ў прэзыдэнты ды іншыя актывісты дэмакратычных сілаў знаходзяцца за кратамі і маюць статус вязьняў сумленьня. Каля 40 прадстаўнікоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" ды арганізацыі "Беларусы ў выгнаньні" выйшлі са сьцягамі ды плякатамі на перакрыжаваньне 1-й Авэню ды 43-й вуліцы ў Манхэтане. Перад прысутнымі выступілі Дзьмітры Шчыгельскі, д-р Ала Орса-Рамана, Віктар Едзіновіч, Вячка Станкевіч, Ганна Сурмач ды Юрась Зянковіч. Выступоўцы адзначылі важнасьць салідарнасьці беларусаў усяго сьвету з суайчыньнікамі і, у першую чаргу, з тымі, каго рэжым Лукашэнкі трымае за кратамі, і заклікалі беларусаў за мяжой і на Радзіме да аб'яднаньня дзеля вызваленьня краіны ад дыктатуры.

22 сьнежня ў грамадзка-культурнай залі Сабору сьв.Кірылы Тураўскага Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, што ў Нью-Ёрку, адкрылася фотавыстава, прысьвечаная падзеям Плошчы-2010. Выставу арганізавалі "Беларусы ў выгнаньні" ды Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне. На адкрыцьці выставы прысутнічала былая адвакат кандыдата ў прэзыдэнты Андрэя Саньнікава Марына Кавалеўская, якую беларускія ўлады ў якасьці помсты пазбавілі адвакацкай ліцэнзіі, але якая пасьпяхова скончыла навучаньне ў Юрыдычнай школе Гарвардзкага ўнівэрсытэту. Марына ды яе муж Валеры Кавалеўскі, былы супрацоўнік беларускага МЗС ды амбасады Беларусі ў ЗША – падзяліліся ўласнай гісторыяй таго, як яны перажылі тыя дні і падзеі, зьвязаныя з плошчай. "Мы палічылі, што прафэсійная адказнасьць ды сумленьне абавязваюць мяне дапамагчы тым, хто церпіць, і ўзяцца за абарону майго кліента Андрэя Саньнікава, нягледзячы на пагрозу пазбаўленьня ліцэнзіі, хаця на той час ад яго ўжо адмовіліся ўсе іншыя адвакаты пад ціскам і пагрозамі ўладаў", - падкрэсьліла ў сваім выступе Марына Кавалеўская.



*Нью-Ёрк*



У той жа дзень, 22 сьнежня 2013 Паўднёва-Флярыдзкі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня правёў сваю акцыю, яна адбылася на галоўнай вуліцы Collins avenue у Sunny Isles Beach, а пасьля перанеслася на гарадзкі пляж. Да акцыі далучыліся таксама беларусы, якія праходзілі побач і, пабачыўшы родныя сьцягі, прынялі ўдзел у дэманстрацыі. Кіроўцы аўтамабіляў, што праяжджалі па Collins avenue, трубілі ў падтрымку. Беларускія і амэрыканскія сьцягі, агульны плакат акцыі, а таксама палітычныя карыкатуры беларускага мастака Дзмітрыя Багацішчава прыцягнулі ўвагу жыхароў Маямі да Беларусі і яе праблемаў.

*Флярыда.Фота Сяргея Волкава*




У тую ж нядзелю, 22 снежня, каля Independence Hall у Філядэльфіі, дзе знаходзіцца The Liberty Bell (Звон Свабоды) адбыўся мітынг мясцовых беларусаў. Беларуская моладзь сабралася, каб нагадаць пра падзеі 2010 году і выказаць салідарнасьць з палітычнымі зьняволенымі. Месцам правядзеньня акцыі быў абраны адзін з галоўных амэрыканскіх сымбаляў барацьбы за незалежнасьць – Звон Свабоды.

*Філядэльфія. Фота Андрэя Цьвікевіча*



Выступленьні ў Нью-Ёрку, Маямі ды Філядэльфіі праходзілі ў рамках Сусьветнай акцыі салідарнасьці беларусаў замежжа з суайчыньнікамі на радзіме і палітычнымі зьняволенымі, што пакутуюць у лукашэнкаўскіх турмах.

# Пікет у Таронта

19 сьнежня ў канадзкім Таронта, каля Музэю хакейнай славы прайшоў пікет супраць правядзеньня ў Беларусі чэмпіянату сьвету па хакеі. Пікет быў арганізаваны Згуртаваньнем беларусаў Канады і прымеркаваны да трэцяй гадавіны разгону Плошчы ў Менску.



# Канфэрэнцыя ў Варшаве

Падзеям 19 снежня 2010 года ў Менску была прысьвечаная канфэрэнцыя «Ці памятае Эўропа пра Беларусь?», якая прайшла ў Варшаўскім унівэрсытэце. У ёй бралі ўдзел кандыдат у прэзыдэнты Беларусі на выбарах 2010 года і лідар грамадзянскай кампаніі «Эўрапейская Беларусь» Андрэй Саньнікаў, галоўны рэдактар сайта charter97.org Натальля Радзіна, дэпутат Эўрапарлямэнта і намесьнік кіраўніка дэлегацыі па сувязях зь Беларусьсю Марэк Мігальскі. Канфэрэнцыя выклікала вялікую цікавасьць сярод студэнтаў - уся аўдыторыя, у якой яна праходзіла, была запоўненая людзьмі - палякамі, беларусамі, украінцамі.

У Познані 19 сьнежня акцыю памяці ладзілі беларускія студэнты разам з грамадзкімі актывістамі, яны нагадалі пра тыя падзеі, якія адбываліся тры гады таму ў Менску. Польскія грамадзяне з зацікаўленасьцю паставіліся да пікету і ахвотна бралі інфармацыйныя ўлёткі. Да моладзі далучаліся мінакі розных нацыянальнасьцяў: палякі, італьянцы, гішпанцы. Удзельнікі акцыі заявілі, што тым самым хацелі ня толькі яшчэ раз расказаць грамадзтву пра палітычных вязьняў у Беларусі, але і прыцягнуць увагу людзей да сытуацыі ў Беларусі.

# Лукашэнка здае Беларусь пад Расею, каб утрымаць свой рэжым

Беларускі дыктатар, напалоханы падзеямі ў суседняй Украіне, сьпешна накіраваўся ў Маскву за падтрымкаю. Пуцін, які нядаўна шчодрымі падачкамі падкарміў Віктара Януковіча, каб дапамагчы яму ў змаганьні з Майданам, тую ж тактыку прымяніў і да Лукашэнкі. У выніку перамоваў Менск і Масква дамовіліся аб пастаўках нафты на наступны год. Як вядома, для сучасных уладаў Беларусі гэта ключавое пытаньне, продаж нафтапрадуктаў дае дыктатару патрэбныя сродкі для ўтрыманьня ўлады. Аб'ём паставак расейскай нафты ў Беларусь у I паўгодзьдзі 2014 складзе 11,5 млн тон.

Адначасна ў Маскве былі абмеркаваны планы-графікі рэалізацыі інтэграцыйных праектаў дзвюх краін у розных сфэрах. У прыватнасьці, гаворка ішла аб праектах з расейскімі кампаніямі ААТ «МЗКЦ», ААТ «Інтэграл», ААТ «Пеленг», ААТ «Гродна Азот», а таксама аб ходзе рэалізацыі праекта ААТ «КАМАЗ» і ААТ «МАЗ».

# Анёл-ахоўнік музэя Анатоля Белага



Вось ужо мінула два гады, як ня стала кіраўніка менскага культурна-асьветнага клюба «Спадчына», знанага беларускага калекцыянера, стваральніка Музэя выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах Анатоля Яўхімавіча Белага.

За гэты час роднымі А. Белага, яго паплечнікамі, сябрамі клюба «Спадчына» шмат зроблена дзеля ўшанаваньня памяці патрыёта Беларусі і руплівага зьбіральніка нашай мастацкай спадчыны. Так, на сядзібе Музэя ўсталяваны помнік-бюст А. Беламу, а сябрамі клюба падрыхтавана да друку кніга ўспамінаў пра ягонага кіраўніка. Нядаўна таксама быў адкрыты помнік Анатолю Беламу на старадарожскіх могілках. На яго асьвячэньні айцом Аляксандрам прысутнічалі родныя, блізкія і сябры клюба «Спадчына», якія падзяліліся ўспамінамі пра Анатоля Яўхімавіча і далейшымі плянамі пра ўшанаваньне яго памяці. Адзін з вэтэранаў клюба «Спадчына» Мікола Лавіцкі са скрухай зазначыў, што пасьля сьмерці кіраўніка інтэнсыўнасьць клюбнага жыцьця значна зьнізілася, і гэта вельмі трывожна. Сп. Мікола адзначыў, што ў памяць Анатоля Яўхімавіча мы павінны зрабіць ўсё магчымае, каб «Спадчына» атрымала другое жыцьцё, каб справа Белага жыла і дапамагала ў актуальнай мэце зьберажэньня і папулярызацыі нацыянальнага выяўленчага мастацтва.




Сябра клюба паэт Яўген Гучок падкрэсьліў неардынарнасьць асобы А. Белага, яго мэтанакіраванасьць і вернасьць ідэалам Нацыянальнага Адраджэньня. Усе гэтыя якасьці спалучаліся ў яго са шчырым разуменьнем нацыянальнага ў мастацтве, душэўнымі адносінамі з айчыннымі творцамі. У той жа час у Анатоля Яўхімавіча знаходзіліся магчымасьці дапамагаць сябрам клюба, накіроўваць іх энэргію на стваральную працу на карысьць Бацькаўшчыны.

Сапраўдным помнікам кіраўніку павінна стаць кніга ўспамінаў, якая падрыхтавана "спадчынаўцамі" і чакае свайго выдаўца.

Вядомы беларускі журналіст Віктар Хурсік зазначыў, што Анатоль Яўхімавіч – былы кадравы афіцэр. Ён быў і застаецца для вялікага кола афіцэраў Узброеных Сіл Беларусі прыкладам патрыятызму і шчырай любові да Беларусі. Сп. Віктар распавёў, што яму давялося бачыцца з Анатолем Яўхімавічам у самыя апошнія дні яго жыцьця, і яго дзівіла тое, што Белы не скардзіўся на боль, а пераносіў сьмяротную хваробу стаічна, дзяліўся сваімі думкамі і плянамі на будучыню.

Пасьля асьвячэньня помніка на старадарожскіх могілках родныя і госьці наведалі і ўсклалі кветкі на магілу бацькоў Анатоля Яўхімавіча. Затым была праведзена мэмарыяльная экскурсія па залях Музэя выяўленчага мастацтва, які стварыў Анатоль Белы. Прысутныя азнаёміліся са стэндам, прысьвечаным кіраўніку «Спадчыны», а брат Анатоля Белага – Міхаіл Яўхімавіч распавёў пра тое, як агульнымі намаганьнямі быў устаноўлены 12-тонны валун, на якім у мінулым годзе быў умацаваны бюст А. Белага. Асаблівае хваляваньне выклікаў расповед удавы А. Белага, Алы Мікалаеўны пра гісторыю скульптуры анёла, які сустракае наведвальнікаў Музея. Гэтая драўляная скульптура сымбалічна ўвасабляе часьцінку душы Анатоля Яўхімавіча, які нябачна прысутнічае сярод нас, аберагае музэйныя зборы.

*Анатоль Мяльгуй*

# Прадстаўнік Дзяржпэпартамэнту ЗША наведаў Беларусь



11-12 сьнежня Менск з афіцыйным візытам наведаў намесьнік памочніка Дзяржсакратара ЗША Эрык Рубін. Праграма візыту амэрыканскага дыпляматa пачалася з сустрэчы з міністрам замежных спраў Беларусі Уладзімерам Макеем. Адбыліся перамовы наконт вяртаньня ў Беларусь дыпляматаў, якія былі адкліканыя пад ціскам беларускіх уладаў яшчэ ў 2008 годзе. Таксама ў цэнтры ўвагі афіцыйнага прадстаўніка ЗША заставалася праблема палітвязьняў. У прыватнасьці, абмеркаваньне сытуацыі з палітвязьнямі было ў цэнтры размовы, якую ён правёў зь лідэрамі беларускай апазыцыі 12 сьнежня, у якой бралі ўдзел - Віталь Рымашэўскі, Станіслаў Багданкевіч, Аляксандр Мілінкевіч, Аляксей Янукевіч, Уладзімір Някляеў. Акрамя Эрыка Рубіна, з амэрыканскага боку на сустрэчы прысутнічаў былы часовы павераны ў Рэспубліцы Беларусь Майкл Скэнлан. Ён, дарэчы, зараз займае вельмі важную для нашай краіны пасаду, узначальваючы ў аддзеле па справах Эўропы і Азіі менавіта працу з Беларусьсю.

# Каляндар памятных датаў на студзень 2014 году

**1 студзеня** – 95 гадоў таму, у 1919 годзе, у Смаленску абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (БССР)

**1 студзеня** – 95 гадоў таму, у 1919 годзе, у Вільні заснавана Беларуская гімназія

**4 студзеня** - 145 гадоў таму, у 1869 годзе, нарадзіўся Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі), пісьменьнік, літаратуразнавец, грамадзкі дзеяч

**6 студзеня** – 95 гадоў таму, у 1919 годзе, нарадзілася Аўгіня Каранеўская, настаўніца, дзеячка эміграцыі ў Аўстраліі

**15 студзеня** – 35 гадоў таму, у 1979 годзе, памёр Алесь Якімовіч, пісьменьнік, паэт

**17 студзеня** – 110 гадоў таму, у 1904 годзе, нарадзіўся Алесь Якімовіч, пісьменьнік, паэт

**17 студзеня** – 10 гадоў таму, у 2004 годзе, памёр Віталь Кажан, грамадзкі і вайсковы дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**23 студзеня** – 125 гадоў таму, у 1889 годзе, памёр у Чылі Ігнат Дамейка, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху, геоляг, мінероляг, нацыянальны герой Чылі

**23 студзеня** – 20 гадоў таму, у 1994 годзе, у Адэляйдзе памёр Янка Ролсан, грамадзка-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі

**24 студзеня** – 110 гадоў таму ў 1904 годзе, нарадзіўся Янка Шутовіч, грамадзка-культурны дзеяч, выдавец

**25 студзеня** – 145 гадоў таму, у 1869 годзе, нарадзіўся Адам Гурыновіч, паэт, фальклярыст

**26 студзеня** – 20 гадоў таму, у 1994 годзе, памёр у Маскве Алесь Адамовіч, пісьменьнік, грамадзкі дзеяч

**28 студзеня** – 125 гадоў таму, у 1889 годзе, нарадзіўся Язэп Мамонька, палітычны дзеяч

**29 студзеня** – 130 гадоў таму, у 1884 годзе, нарадзіўся Антон Луцкевіч, грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст, старшыня Ураду БНР

## Першую кнігу пра Натальлю Арсеньневу прэзэнтавалі ў Горадні



У Горадні была прэзэнтаваная кніга «Натальля Арсеньнева. Шлях да Беларусі», напісаная Алай Петрушкевіч. Прэзэнтацыя адбылася ў артгалерэі «Крыга».

Прафэсар Гарадзенскага ўнівэрсытэту Аляксей Пяткевіч, які рэдагаваў кнігу, лічыць, што як паэтка Натальля Арсеньнева паднята над зямлёй: «Хаця ўсякі паэт любіць падымацца над зямным, будзённым, празаічным. Але ў Арсеньневай гэта абсалютна арганічная якасьць. Яна калі і апускаецца на зямлю, то зямля ў яе напоўненая чарамі. Зямля — гэта ня тая, па якой ходзяць, нешта робяць. Гэта нешта іншае, чаго мы, звычайныя людзі ня можам спасьцігнуць, ня можам адчуць, - сказаў ён. - Вось пра такую паэтку напісала кніжку аўтарка, якая здольная жыць на той жа духоўнай хвалі, што й Арсеньнева. Таксама лунаць, таксама чуць тое, што чула яна». Сп. Пяткевіч распавёў аб тым, што асабіста з паэзіяй Арсеньневай пазнаёміўся яшчэ ў пятай-шостай клясах, пад час вайны, калі зьбіраў падшыўку часопіса «Новы Шлях», дзе яна часта друкавалася. Яны сьпявалі з настаўніцай песьні, яго любімай была «У гушчарах, затканых імглою» на словы Арсеньневай.

Аўтарка кнігі Ала Петрушкевіч паведаміла, што працавала над ёй дзесяць гадоў, гаварыла пра «загадку Натальлі Арсеньневай», аб тым, як яна, небеларуска, стала вядомай беларускай паэткай. У вечарыне ўдзельнічалі калегі аўтаркі па унівэрсытэце імя Янкі Купалы, крытык Ігар Жук і паэт Анатоль Брусевіч. Прыйшлі маладыя аматары паэзіі, студэнты, гучалі беларускія народныя песьні.

*Паводле Радыё Свабода*

## Ангельскія газэты пра Беларусь

У газэце ад 31.08.2013 быў апублікаваны артыкул пад назовам "Крэмль кажа, што Беларусь мусіць зволніць бізнэсоўца". Гаворка ішла пра Генэральнага дырэктара "Уралкалія" Уладзіслава Баумгертнэра. У артыкуле таксама пішацца пра сучасную сытуацыю ў Беларусі, пра тое што Расея робіць на яе эканамічны ціск.

Ізноў у газэце ""Financial Times" за 18.09.2013 быў доўгі артыкул у працяг тэмы ўзаемаадносінаў "Уралкалія" і "Беларуськалія".

У газэце "The Sunday Telegraph" за 20.10.2013 і 27.10.2013 былі артыкулы пра фінансавую дапамогу Беларусі ад Эўразьвязу, адзначалася, што Эўразьвяз выдзеліў Беларусі 68 млн. фунтаў стэрлінгаў на абсталяваньне заходняй мяжы новай тэхнікаю, каб не дапускаць нелегальных эмігрантаў у Эўропу, таксама на іншыя праграмы. Паводле аўтара артыкула ўлады Беларусі ігнаруюць правы чалавека і дзеля гэтага ён крытыкуе Эўразьвяз за такую дапамогу беларускаму рэжыму.

У газэце "The Daily Telegraph" за 27.11.2013 у адным з артыкулаў згадваецца беларус Зьміцер Радкевіч, які быў у апазыцыі да ўладаў і па гэтай прычыне быў пераследаваны нават у замежжы, калі выехаў у Баўгарыю.

*Міхась Шведзюк, Англія*

## У памяць пра Міколу Ганька

Сёлета, 18 траўня, спаўняецца 15 гадоў з дня сьмерці Міколы Ганька, аднаго з выбітных дзеячаў беларускай эміграцыі, шматгадовага старшыні Парафіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта і старшыні Згуртаваньня беларусаў Канады.

Пяць гадоў таму ўдава сьв. памяці М. Ганька, Марыя Ганько заснавала літаратурную прэмію ягонага імя. Яе лаўрэатамі сталі Вольга Іпатава, Віялета Кавалёва, Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», часопіс «Верасень» у асобе яго галоўнага рэдактара Эдуарда Акуліна. Пазалетась гэтай прэміяй узнагародзілі Зінаіду Крупскую і Ніну Сакаву.

Калі першыя імёны добра вядомыя ў беларускім нацыянальным асяродзьдзі, то пра дзвюх настаўніц, якія праводзяць вялікую асветніцкую працу ў сваіх раёнах – Вілейскім і Асіповіцкім— вядома няшмат.Тым ня меней, без такіх падзвіжніц, як яны, ва ўмовах татальнага зьнішчэньня ўсяго нацыянальнага многія парасткі беларускасьці змарнелі б. У іхнім лёсе шмат агульнага – настаўніцкая праца, перасьледы, яны абедзьве пішуць вершы і прозу. Зінаіду Крупскую нядаўна прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, яна кіруе літаратурным аб'яднаньнем ў сваім раёне.

Марыя Ганько і сёлета будзе вырашаць разам з журы, у якое ўваходзяць усе ляўрэаты, хто атрымае прэмію, якая з кожным годам робіцца ўсё больш прэстыжнай.

*Ю.Трубец*

## Дзяржчэпартамэнт ЗША згадаў Плошчу 2010

*Гэты прэс-рэліз быў распаўсюджаны Дзяржчэпартамэнтам ЗША ў сувязі з гадавінай Плошчы і размешчаны на афіцыйным сайце ведамства. Падаем ягоны тэкст у арыгінале.*

Human Rights in Belarus on the Anniversary of the December 19, 2010 Crackdown

Press Statement
Marie Harf
Deputy Department Spokesperson, Office of the Spokesperson
Washington, DC

December 19, 2013
Three years after the Belarusian Government launched its brutal crackdown on civil society, the democratic opposition, and independent media, we remember the political prisoners who remain in detention and reiterate our call for their immediate and unconditional release and the restoration of their political rights. We note the December 1, 2010 joint statement between our two countries, which affirmed that enhanced respect for democracy and human rights remains central to improving bilateral relations, and is essential to the progress of Belarus and its citizens. As we mark the third anniversary of the events of December 19, 2010, we stand with the people of Belarus and reaffirm our readiness to help them build a democratic, prosperous, and truly independent European state.

# Слова на Каляды



З нагоды сьвята Божага Нараджэньня Апостальскі візытатар для беларусаў грэка-католікаў замежжа айцец Аляксандар Надсан зьвярнуўся да вернікаў.

«Як гляну на неба, твор рук Тваіх, на месяц і зоркі, якія Ты стварыў, дык хто ёсьць чалавек, што Ты памятаеш пра яго, і сын чалавечы, што Ты пра яго дбаеш?» (Пс 8:4-5). Гэтыя словы псалма добра перадаюць пачуцьці чалавека, які, узіраючыся на веліч Божага тварэньня, стараецца зразумець, чаму Бог прыдае так шмат увагі такой нязначнай істоце, як чалавек.

Падсьвядома аўтар адчувае, што ў пляне Божага тварэньня чалавек займае асаблівае, хоць яшчэ не зусім для яго зразумелае, месца.

Гэты плян Божы знайшоў сваё завяршэньне ў падзеі, памяць якой мы сьвяткуем і пра якую сьвяты Павал сказаў: «Калі прыйшла поўня часу, Бог паслаў Сына Свайго, народжанага ад Дзевы, народжанага пад законам, каб мы маглі атрымаць усынаўленьне...» (Гал 4:4-5).

Іншымі словамі, Госпад і Бог наш Ісус Хрыстос стаў чалавекам, адным з нас, каб даць нам магчымасьць стаць дзецьмі Божымі, удзельнікамі Боскага жыцьця.

Нам давялося бачыць і дасьведчыць розных людзкіх спробаў зрабіць нас «шчасьлівымі», не пытаючыся нашай згоды. Нашыя «дабрачынцы» думаюць, што ведаюць лепш за нас, што нам трэба для шчасьця. І калі мы зь імі не згаджаемся, яны ня супраць ужыць сілу, каб нас, неразумных, ашчасьлівіць. Вынікі іх «дабрачыннай» дзейнасьці нам добра вядомыя.

Ня так Бог. Таму Ён з уласнай волі прыйшоў на сьвет, як малое бездапаможнае дзіцятка, якое ня толькі не пагражала нікому, але мела патрэбу ў нашай дапамозе і спагадзе. Пасьля, у дарослым веку, Ён адмовіцца ад ужываньня сілы і ня будзе абяцаць «неадкладнага шчасьця», але скажа: «Прыйдзіце да Мяне, усе стружаныя і абцяжараныя, і Я супакою вас. Вазьміце ярмо маё на сябе і навучыцеся ад Мяне, бо я ціхі і пакорнага сэрца, і знойдзеце супакой для душаў вашых. Бо ярмо маё прыемнае, і цяжар мой лёгкі» (Мц 11:28-30). Іншымі словамі, Ён абяцаў тым, што пайшлі за ім, не вызваленьне ад цяжкасьцяў, але даць сілу пераносіць іх.

Вось гэтай сілы духоўнай, каб перанесьці цяжкасьці жыцьцёвыя і не заламацца, хай Госпад і Бог наш Ісус Хрыстос, чыё нараджэньне ў целе сёньня радасна сьвяткуем, дасьць нам усім.

*а. Аляксандар Надсан*
*Каляды 2013*

# З каляднымі сьвятамі і Новым, 2014, годам

Дарагія Суродзічы!

Віншую вас з надыходзячымі Сьвятамі Божага Нараджэньня і з Новым 2014 годам, і жадаю вам усяго найлепшага. З глыбіні сэрца жадаю, каб «Уладар вялікіх сонцаў» паслаў «праменьне Свае хвалы» на наш прыгожы край.

Адначасна, хачу падзяліцца з вамі словамі Альбэрта Эйнштайна, якія мяне моцна ўразілі. Эйнштайн казаў, што «сьвет ёсьць небясьпечным ня столькі дзеля тых, што робяць зло, як дзеля тых, што глядзяць на гэта і не рэагуюць». Прыстасаваўшыся да абставінаў, яны глядзяць абыякава на пакуты ахвяраў злачынстваў, у спадзяваньні, што зло зьнікне само сабой.

На парозе Новага Году, зьвяртаюся да вас, дарагія Суродзічы, з просьбай задумацца над гэтымі словамі Альбэрта Эйнштайна.

Хто будзе вас бараніць, калі вам зробіцца нязносным зьдзек над вамі і над вашымі дзеткамі з боку нялюдзкага рэжыму? У гісторыі ня раз бывала, што людзі прачыналіся запозна. Ня будзьце-ж абыякавымі да таго, што робіцца вакол вас. Далучайцеся да тых, хто бароніць вашае права жыць у свабодзе.

Расейскія ваенныя базы, якія зробяць вас ахвярамі любога ваеннага сутыкненьня, АЭС, якая будуецца чужымі рукамі на чужую карысьць, бюджэтныя зьмены на карысьць сілавых структур за кошт аплаты патрэбаў рэшты насельніцтва ды развіцьця нашае культуры і захаваньня нацыянальнае спадчыны, замена беларускага насельніцтва на іншародных прыхадняў – так як гэта ўжо рабіла Маскоўская імпэрыя – усё гэта прычыны, каб ня быць абыякавымі. Але пачаць можна ад найбольш відавочнага. Колькі часу яшчэ шматвекавы эўрапейскі народ будзе талераваць, каб ягоны край называлі апошняй дыктатурай Эўропы? Колькі часу яшчэ трэба будзе чакаць, каб у Беларусі не было палітвязьняў і чуць абразы пад іх адрасам, што маўляў гэта звычайныя злачынцы? Кожны грамадзянін Беларусі мае права вымагаць, каб яго трактавалі, як чалавека, а абавязак грамадзтва ёсьць яго падтрымаць.

Дарагія Суродзічы, яшчэ раз жадаю, каб гэты год быў для вас памысным і плённым. Я моцна веру, што з Божай дапамогай, разам, і мы зможам дасягнуць мэту кожнага развітага народу – заняць пачэснае месца ў сям'і чалавецтва.

Жыве Беларусь!

*Івонка Сурвілла*
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

# Навагодня-калядны ліст 2013-14

Дарагія нашы!

Ня буду гаварыць аб тым, што тыдні-месяцы-гады ляцяць, як віхор. Гэта тэма для старых (духам). А мы - духам маладыя. Наша маладосьць у тым, што нам усё мала, каб было досыць. Вечна нечага ўсё хочацца: новых вестак, новых адчуваньняў, новых намераў... Казыча думка пра ўвесь наступны год: якімі сюрпрызамі ён нас пачастуе? Што новага мы адчуем, пабачым, зразумеем? Куды нас завядуць новыя сьцежкі?

І пакуль гэты абнаўленчы сьверб у галаве сядзіць, мы – маладыя.

Але напярэдадні Новага году трэба прыгадаць і пераժытае ў Старым.

Нам з Надзяй ён быў шчодрым. Папершае, скончыліся нарэшце пакуты (і ня толькі нашыя, а й Ірэны ды Мікалая Дуткоў) з рыхтаваньнем да друку й распаўсюджваньнем фэстывальнае кнігі. Уфффф!!! Далася яна ў знакі! А па-другое, нам хапіла адвагі выбрацца летам у далёкае падарожжа, каб адведаць дарагіх сваякоў у Беларусі ды сяброў у Беластоку.

Было прыемнае і ў спалучэньні з сумным. Шчасьлівым выпадкам пазнаёміліся мы зь сям'ёй Андрэя й Дашы Сьмерціных. Жыхары Бабруйску, яны прывезьлі сваю дачушку, чатырохгадовую Жэнечку, лячыць ад раку мозгу ў новузбудаваны каля нас цэнтар пратоналячэньня. З цэнтру нас папрасілі дапамагчы ім ангельскай мовай, інфармацыяй ды іншымі паслугамі на час іхняга побыту. Знаёмства сталася сяброўствам. Жэнечка, мілы калубочак радаснай энэргіі, вярнулася з бацькамі дамоў падлечанай, але стррашная хвароба не пакінула яе. Пасьля колькіх месяцаў пазваніў нам Андрэй са страшнай весткай: дачушка памерла, пражыўшы на гэтым сьвеце крышку больш за пяць гадзікаў. Сэрца шчыміць ад болю, а галава кажа: доля зь нядоляй – ня наша воля...

Зь нядоляй спаткаўся й малады жыцьцярадасны Сяргей Саўчыц - Надзін сваяк, родам з Жыткавічаў, жыў у Менску. Наведаў нас, калі мы сёлета былі там. Прынёс з сабой пачастунак, расказаў пра сваю працу, у тым ліку пра заняткі спортам. Сяргей у ліпені сёлета удзельнічаў у беларуска-летувіскім маратоне з Горадні да Друскенікаў. Атрымаў за гэта мэдаль. Падарыў яго нам на памяць, як "найдаражэйшую" сваю трафею. А ў лістападзе – званок з Жыткавічаў: Сяргея Саўчыца забілі! – Ударам па галаве, калі ішоў з працы дамоў. Хто й за што?! Пакуль што нічога няведама. Суровая рэальнасьць зямнога быту...

Успамінаецца песьня кампазытара Міколы Куліковіча, якую некалі мы, маладыя, любілі сьпяваць: "Жыцьцё наша быццам чаўны сярод мора, што бураю гоніць бязьлітасны лёс – то кіне у радасьць, то кіне у гора, то сьмехам частуе, то хвалямі сьлёз".

Аглядаючыся на пражыты год, думаем з удзячнасьцю пра тых, з кім трымалі лучнасьць, абменьваліся навінамі, думкамі, жартамі, а іншы раз і спачуваньнямі. Жыцьцё – салодка-горкая мікстура. Каб яна не здавалася вам лішне горкай, падаю выказваньне францускага гісторыка Алексіса дэ Токвіля: "Ведайце, што жыцьцё – гэта ані суцэльная пакута, ані суцэльная прыемнасьць, а паважная справа, якою трэба займацца з адвагай і ў духу самаахвярнасьці". Будзьма ж самаахвярнымі адно да аднаго.

Мы з Надзяй шчыра віншуем вас з Новым годам і Хрыстовым Нараджэньнем, зычым добра правесьці іх ды заставацца ў моцным здароўі й духовым камфорце.

*Я+Н (Янка і Надзя Запруднікі)*

## Віншуем Радзіма Гарэцкага!

7 сьнежня свой слаўны 85-гадовы юбілей сьвяткаваў Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі - прэзідэнт МГА "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" ў 1993—2001 гадах, сябра Вялікай Рады Згуртаваньня, акадэмік НАН Беларусі, аўтар шматлікіх кніг і публікацый.

Ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і Рэдакцыі нашай газэты сардэчна віншуем шаноўнага Радзіма Гаўрылавіча і выказваем яму шчырую падзяку за шматгадовую працу з беларускай дыяспараю ў сьвеце. Зычым юбіляру шмат гадоў актыўнага і плённага жыцьця дзеля беларускай справы.

## "Жыццёвы меланж" Радзіма Гарэцкага




Перапляценьне лёсаў і падзеяў, убачанае праз прызму сваіх адчуваньняў - гэта жыцьцёвы меланж выбітнага Беларуса – Радзіма Гарэцкага. І гэтым ён дзеліцца ў кнізе нарысаў, эсэ, мініяцюр-назіраньняў ды лірычных зацемак, якая пабачыла сьвет сёлета ў выдавецтве "Кнігазбор" па замове МГА "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына".

## Шаноўныя сябры!

Управа і супрацоўнікі Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" шчыра віншуюць вас з Калядамі і Новым годам!

Няхай у вашым доме пануюць мір і згода, спагада і любоў, а ў любое надвор'е вас сагравае сьвятло вашых сэрцаў і сонечныя ўсмешкі блізкіх!

Зычым, каб спраўдзіліся вашыя Калядныя чаканьні! Каб Новы год прынёс вам радасьць і натхненьне, задавальненьне ад працы на сваю і грамадзкую карысьць, а нашай любай Беларусі — волі, дабрабыту і росквіту!

## Багдановіч расплаціцца за сваю «Пагоню»

Кіраўнікі Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, беларускага ПЭН-цэнтру, мастацкай суполкі «Па-



*Прэс-канфэрэнцыя беларускіх пісьменьнікаў, прысьвечаная справе музэяў*

гоня», кампаніі «Гавары праўду» выступілі ў абарону музэяў Максіма Багдановіча ў Менску і Горадні Прадстаўнікі творчай грамадзкасьці пратэстуюць супраць пераводу музэяў у шэрагі філіяў.

Літаратурныя музэі Максіма Багдановіча ў Менску і Горадні зь 1 студзеня пераводзяцца ў філіял Музэя гісторыі беларускай літаратуры і ў аддзел Гарадзенскага гісторыка-археалягічнага музэя. Гэткім чынам Міністэрства культуры выконвае прэзыдэнцкую пастанову № 168 аб скарачэньні дзяржапарату і аптымізацыі.



«Заўтра гэта філіял, а пасьля недзе нараджаецца думка: а навошта філіялу, дзе з трыццаці супрацоўнікаў засталося толькі дзесяць, вялікі будынак? Давайце ўшануем памяць Максіма Багдановіча заляй у Музэі гісторыі беларускай літаратуры. Гэтак хтосьці атрымае выдатны будынак, тым больш, што суседзі ў гэтага музэя вельмі ўплывовыя, а мы будзем мецць сьціплую залю Максіма Багдановіча», — гаворыць пісьменьнік Уладзімер Арлоў.

Паэт Уладзімер Някляеў таксама лічыць ліквідацыю самастойнасьці музэяў небясьпечнай зьяваю :

«Відавочна, што гэтая аптымізацыя ёсьць працэсам ліквідацыі беларускай духоўнасьці. Вось зараз Майдан: там ідзе барацьба за ўладу — адны спрабуюць выціснуць іншых. Але там ніхто не выціскае Тараса Шаўчэнку, Лесю Украінку, там ніхто не выцясьняе Украіну. У нас гэты працэс ідзе ад самага пачатку прыходу да ўлады Лукашэнкі. І тое, што адбываецца з музеем Максіма Багдановіча — зьвёны аднаго ланцуга. У Беларусі сёньня культурны і духоўны фронт — вось, дзе мы павінны змагацца, калі хочам застацца людзьмі і калі хочам быць вартымі нашых суседзяў, якія сёньня стаяць на Майдане».

Прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі заявілі, што будуць бараніць музэй Максіма Багдановіча даступнымі ім сродкамі: на прыступках будынка праходзяць мастацкія пэрформансы, паэтычныя чытаньні і выступы бардаў, якія выконваюць песьні на вершы паэта.

*Паводле Радыё Свабода*

## Па прычыне анкалёгіі гіне кожны сёмы беларус

Сёньня ў Беларусі ракавыя захворваньні – другая прычына смяротнасьці насельніцтва пасьля хваробаў сістэмы кровазвароту. Ад раку гіне 13-15 адсоткаў усіх памерлых. Колькасьць захворваньняў памнажаецца з года ў год. Штогод выяўляецца каля тысячы новых хворых на анкалёгію. Такая інфармацыя падаецца ў штогадовым зборніку «Статыстыка анкалягічных захворваньняў» пад рэдакцыяй Алега Суконка, дзе падаецца інфаграфіка пра хворых і памерлых ад раку за 2002-2012 гады.

*23.11.2013*

## Саннікаў у «Washington Post»: Трэба дапамагчы Беларусі пазбавіцца ад дыктатуры



Артыкул лідара «Еўрапейскай Беларусі» 27 сьнежня 2013 надрукавала амэрыканская газэта «The Washington Post», які пачынаецца так:

"Увага ўсяго сьвету ў апошні час прыцягнутая да мужных украінцаў, якія праводзяць шматтысячныя дэманстрацыі, імкнучыся да інтэграцыі з Эўропай для таго, каб пазьбегнуць «абдымкаў» Расеі. Але важна памятаць і пра суседнюю Беларусь, якая геаграфічна знаходзіцца ў сэрцы Еўропы, а палітычна больш падобная на савецкую глуш.

Большасьць яе грамадзян хочуць свабоды, а не рэпрэсій з боку брутальнага дыктатара, больш жорсткага і дэспатычнага, чым прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч і прэзідэнт Расеі Уладзімір Пуцін разам узятыя".

## Спачуваньне

Выказваем сардэчнае спачуваньне сябру Бруклінскага аддзелу БАЗА Алесю Сапуну і ягоным братам Міхаілу і Ягору з нагоды заўчаснай сьмерці 5 сьнежня ад цяжкай хваробы іхнага бацькі Сапуна Юрыя.

## Віншаваньне

Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня віншуе сяброў БАЗА і ўсіх амэрыканскіх беларусаў са сьвятамі Калядаў і надыходзячым Новым, 2013, годам.

Выказваем надзею, што наша супрацоўніцтва ў беларускім грамадзкім жыцьці пасьпяхова прадоўжыцца і далей. Жадаем вам, вашым родным і блізкім вясёлых сьвятаў, шчаслівага і плённага наступнага году, надзеі на лепшую будучыню нашай Бацькаўшчыны-Беларусі.

## Ліст з Канады ад Пётры Мурзёнка

Дарагія сябры!

Віншуем Вас з надыходзячымі сьвятамі - Калядамі, Новым 2014-м годам і зноў жа з Калядамі. Зычым Вам шчасьця, здароўя і посьпехаў у Новым годзе. Да сваіх віншаваньняў далучаем кароткі зьмест чарговага нумара часопіса «САКАВІК», №4, сьнежань 2013, які зьмешчаны 15 сьнежня на нашым вэб-сайце www.sakavik.net

У гэтым нумары Вы знойдзеце артыкул з творчай спадчыны прафэсара Крукоўскага, а таксама публікацыі А. Згерскага, В. Казловай і інш. Падаецца таксама інфармацыя пра пачатак фэстываляў арганнай музыкі ў Беларусі; пра першы зь іх, які прайшоў у кастрычніку на Пастаўшчыне, распавядае адзін з арганізатараў фестываля, Т. Стружэцкі.

На старонках вэб-сайта «САКАВІК» зьмешчаны таксама цікавыя матэрыялы з другіх крыніц, прысьвечаныя развіцьцю беларускасьці і беларускай культуры. Запрашаем на старонкі часопіса.

*З павагай і найлепшымі пажаданьнямі,*
*Пётра Мурзёнак і рэдакцыя часопіса "САКАВІК"*

## Запрашэньне

Шаноўныя сябры, беларусы Нью-Ёрку!

Парафіяльная Рада Сабору Сьв.Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы і Бруклінскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня запрашаюць на Калядную Ялінку для дзяцей і дарослых.

Вас чакаюць беларускія калядныя сьпевы, карагоды вакол Каляднай Ялінкі, смачны пачастунак, падарункі дзеткам.

Сьвята Каляднай Ялінкі адбудзецца ў нядзелю **12 студзеня,** пачатак у **12:30** ў царкоўна-грамадзкай залі Сабору **(401 Atlantic Ave, Brooklyn)**




## Віншаваньне з Аўстраліі

Шаноўнае спадараства!

Ад імя нашага сьціплага Беларускага Цэнтральнага Камітэта ў Мельбурне віншуем вас і вашых блізкіх з Калядамі і Новым 2014 годам.

Радасьці і посьпехаў у вашым асабістым жыцьці, а самае галоўнае – добрага здароўя.

Жадаем таксама прагрэсу ў міжнародных справах, каб мець магчымасьць браць удзел на высокім узроўні ў тых арганізацыях, дзе вырашаюцца лёсы існаваньня народнасьцяў – "Быць ці ня быць".

Для Беларусі, для яе існаваньня без сумневу мае значэньне актыўнасьць усіх беларусаў, асабліва тых, што жывуць у Расеі, там іх мільёны. Пара абудзіцца, каб ратаваць Бацькаўшчыну!

Жыве Беларусь! Назаўсёды!

*Старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Мельбурне*
*Янка Барысевіч*
*Заступнік а. А. Грыцук*
*Упаўнаважаны І. Влодар*

## Віншаваньне

Рада Парафіі БАПЦ сьвятога Кірылы Тураўскага ў Таронта шчыра віншуе сп. Барыса Кірку з 85-годзьдзем!

Шаноўны Барыс Федаравіч!

Мы ведаем Вас як добразычлівага, вясёлага і таварыскага чалавека, які на працягу дзесяцігодзьдзяў быў і застаецца шчырым вернікам і актыўным грамадзкім дзеячом. Вашае жыцьцё ў Канадзе неадлучна зьвязана зь Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквою. На працягу многіх гадоў Вы былі старшынём нашай Парафіі, Ваш голас заўсёды гучыць у царкоўным хоры.

З удзячнасьцю за Вашую самаадданасьць мы зычым Вам моцнага здароўя, сьвяточнага настрою і радасьці ў жыцьці! Вашы заўсёдныя бадзёрасьць, падцягнутасьць і аптымізм ёсьць выдатным жыцьцёвым прыкладам для маладога пакаленьня канадыйскіх беларусаў!

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Кастусь і Марыя Варабей | 50 |
| Міхась і Тамара Белямук | 60 |
| Кацярыны Вініцкая | 50 |
| Яўген Груша ( Аўстралія) | 100 |
| Анна Жызнеўская 60 | |
| Вольга Іпатава, Руслан Качаткоў (Канада) 100 | |
| Жанна Карнілава | 50 |
| Фанік Корбут (Аўстралія) | 100 |
| Алег Маліноўскі | 50 |
| Міхаіл Нагорны (Англія) | 50 |
| Анатоль Занковіч | 100 |
| Алена Сенька (Англія) | 100 |
| Міша Тарашкевіч (Аўстралія) | 50 |
| Міхась Швэдзюк (Англія) | 50 |
| Лявон Шурак | 100 |
| Астап Ярахові ч | 60 |

**Шчыры дзякуй усім ахвярадаўцам !**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая - адказная за кампутарную вёрстку
Андрусь Падлескі – сябра рэдакцыі
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
*Hazeta Bielarus*
*166-34 Gothic Drive*
*Jamaica, NY 11432*
*USA*

**Грашовыя чэкі выпісваць на імя :** ***BIELARUS newspaper*** дасылаць скарбнікy на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email): bielarus@bazahq.org**